# Самапомач Гаспадаръ

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 20 (73).
Год VI.
Вільня.
12.XII.1937 г.

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

# Больш самадзейнасьці!

*(З прычыны гаспадарскае канфэрэнцыі ў Вільні 11.XII.1937 г.).*

Ужо больш году як газэты й радіо трубяць, што „крызыс мінае“ ці ўжо нават „мінуў,“ што там і там ідзём наперад у 50, у 100 ці яшчэ больш працэнтах. Раз-у-раз чувацца, што цэны на збожа, на малако, на жывёлу, падняліся, што ашчаднасьці ў банках узрастаюць, абароты ў гандлі часьцеюць, будаўляны рух (будынкі, дарогі) расьце і г. д. і г. д. Усё гэта набірае йшчэ большай сілы, калі прыняць пад увагу частыя весткі аб прызнань ні для сялян пазыкаў, адсрочкаў, скасаваньняў доўгу і г. д.

Начытаўшыся ці наслухаўшыся гэткіх і падобных навін можна згубіць пачуцьцё рэчаістасьці.

Але гэта толькі сон. Бо што нашаму селяніну з таго, што „падняліся“ цэны на збожа, калі ён яго ня мае на продаж, а часта нават мусіць купіць на хлеб; што за карысьць з узросту абаротаў у гандлі, калі цэны на артыкулы першай патрэбы асталіся бяз зьмены. Якая карысьць з залічкаў і пазыкаў, калі ўсе яны даюцца ня йнакш як толькі праз фахова-земляробскія і коопэратыўныя арганізацыі, да катората наш беларускі селянін з тых ці іншых прычын не належа ці належаць ня можа? Якая карысьць з праводжаных на шырокую руку за пазычаныя грошы будаўляных інвэстыцыяў, калі яны адбываюцца ня ў нас, а за колькісот кілёмэтраў?! Прыкладам гэтага можа быць хоць-бы С.О.—S., аб якім мы пісалі ў апошнім (19) нумары нашага часапісу.

Гэтак ёсьць. А ці робіцца штосьці на будучыню?

Паправа лёсу нашага сялянства гэта справа не аднаго чалавека ў асобку, а справа гурту, грамады, арганізацыі — асьветнай, гаспадарчай; палітыку тут абмінаем сьведама, хай аб ёй рупяцца арганізацыі палітычныя. Год з лішнім таму, як пазачыняны абедзьве беларускія культурна-асьветныя арганізацыі: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Т-ва Беларускай Школы. На арганізаваньне чагосьці новага тымчасам улады не пазваляюць. Існуюць па вёсках нашых гаспадарска-сялянскія арганізацыі польскія: коопэратывы, фахова-земляробскія гурткі („кулкі рольнічэ“). Хоць жыцьцё гэтых арганізацый на вёсцы кожны бача, то аднак аб сапраўдных іхніх намерах можна даведацца толькі выпадкова. Гэтак напр. нядаўны Варшаўскі зьезд Саюзу Земляробскай Коопэрацыі паказаў змаганьні за ўладу ў ім. за кірунак, групы пазнанска-паморскай („Унія“) з групаю „направяцкай,“ ці якбы яе на нашы варункі назваць — асадніцкай. Перамаглі тут пазнанякі. — Тое самае, толькі ў адваротным кірунку, выявілася на зьезьдзе „Кулак рольнічых.“ І ў адных і ў другіх арганізацыях сядзяць і сяляне беларускія, і напэўна ня шмат ведаюць, аб што гэтыя дзьве ўстановы паміж сабою сварацца. А гэткая нясьведамасьць — гэта доказ, як мала гэтыя нашыя сяляне з арганізацыйным жыцьцём зьвязаны.

На соймавых нарадах, якія цяпер якраз адбываюцца, чувацца моцнае дамаганьне самых палякоў, каб сялянству было дана больш свабоды ў кіраваньні сваім штодзенным жыцьцём. Гэта, кажуць, ёсьць найлепшы спосаб выклікаць і выкарыстаць утоеныя сілы народу, якія марна дрэмлюць схаваныя пад накіненай зьверху воляй уладаў рознае канцэлярышчыны.

Сьвятая гэта праўда. І наш беларускі селянін мае ў сабе вялікія запасы ініцыятывы і энэргіі. Не хапае яму толькі самапэўнасьці, якой не здабудзе ён ніколі ў арганізацыях, у якіх чуецца... у найлепшым выпадку толькі гасьцём, але ніколі гаспадаром. Каб-жа селянін наш чуўся ў арганізацыі гаспадаром, на гэта няма іншай рады, як толькі — згодна з законам—пазволіць яму ладзіць сваё жыцьцё, здабываць асьвету так, як гэта ён сам уважае за добрае і канешнае і на што—паўтараем—ён мае поўнае права. Гаспадарская самадзейнасьць адзінкі і арганізацыі гэта найлепшы лек на пашыраючаеся безрабоцьце, гэта найпэўнейшая помач ня толькі „зімавая,“ але і на круглыя гады.

## Łatyskaje ziemlarobstva

Susiedniaja z nami Łatvija — staronka z niacełymi 2 miljonami nasielnictva na 66.791 kv. klm., 18.XI. siol. abchodziła ŭhodki svaje palityčnaje niezaležnaści. Da vajny, jak viedama, Łatvija, padobna jak i ŭsia Biełaruś, uvachodziła całkom u skład Rasiei. Tady ŭžo Łatyšy byli viedamyja jak prykładnyja haspadary-ziemlaroby. Jašče bolš adnak zasłyli jany z svaje haspadarnaści, kali zdabyli dla svaje krainy palityčnuju niezaležnaść.

Adnosiny Łatvii da Biełarusaŭ, jakich uradavy pierapis naličyŭ tady bolš 70 tys. (3 z pałovaju pracenty ŭsiaho kraju) byli samyja dobryja. Źmianilisia jany ŭ horšy bok paśla taho, jak da ŭłady pryjšli łatyskija elementy nacyjanalistyčnyja. Treba hetaha škadavać, nia traciačy nadziei, što kali nia ŭ bližejšaj dyk u dalejšaj budučyni hetyja ŭzajemaadnosiny ŭsiož uzyjduć na šlach pravilny. Tymčasam adnak haspadarka Łatyšoŭ z šmat jakich pryčyn zasłuhoŭvaje na ahulnaje prynamsia paznańnie. Šmat chto z Biełarusaŭ za apošnija hady pabyvaŭ u Łatvii asabista i bačyŭ usio svaimi vačami. Tyja-ž, chto ŭ Łatvii nia byli, chaj pasłuchajuć, jak ab joj apaviadaje časapis česki.*)

...Łatvijskaja respublika (Łatvija) jość haspadarstvam ziemlarobskim, bo kala 70 pracent ŭ nasielnictva žyvie z ziemlarobstva.

Łatyskaje ziemlarobstva było vielmi spustošana suśvietnaj vajnoj. Bolš pałovy ŭsich sialibaŭ Łatvii było bolš ci mienš źniščana, čaćviertaja čašć usich haspadarskich budynkaŭ była całkom ci častkova razburana. Vialikaja čašć vornaha pola łažała pad paparam. Jašče ŭ 1919-20 hadoch blizu tracina ŭsiaje pradvajennaje płoščy nia była abhaspadaravana. Za čas vajny značna tak-ža abnižyłasia ličba trymanych u haspadarkach koniaŭ, dojnych karoŭ, śviniej i inšaj žyvioły. Jašče bolšaje spustašeńnie nastała ŭ haspadarkach, jakija zajmalisia hadoŭlaj zavodnaj skaciny i takoha-ž nasieńnia. Abnižyłasia taksama ahulnaja ličba nasielnictva, jakoje zajmałasia ziemlarobstvam: prad vajnoj pracavała ŭ łatvijskim ziemlarobstvie 1.600.300 čałaviek, a ŭ 1920 h. tolki 1.216.647 čałaviek.

### Ziamielnaja reforma.

Padyjmajučysia z vajennaha spustašeńnia, Łatyšy adrazu, bo ŭžo 16 vieraśnia 1920 h. pryniali zakon ab parcelacyi, jakim utvaryli hetak zvany *Dziaržaŭny Ziamielny Fond*. U hety Fond była pryniata ziamla z 1479 dvaroŭ byŭšaj šlachty (pieravažna niełatyskaj), cerkvaŭ (kaściołaŭ) i ŭsiakaja inšaja. Hetak Fond staŭsia ŭłaśnikam 35 prac. ziamli na abšary ŭsiaje Łatvii. Ziamielny Fond hetaje ziamli ani trymaŭ, ani sam biespasredna nie nadzialaŭ: jon addaŭ usiu ziamlu roznym

*) „československy Zemedelec” № 47, z 19 listapada 1937 h.

# *Што, як і калі рабіць?*

*(Земляробская тэхніка)*

## Крыху аб авечках на расплод.

У гадоўлі авечак вельмі вялікую вартасьць мае іхні век. Ня ведаючы колькі гадоў авечцы (барану), ня можна іх пакрываць, ня ведаемо калі іх трэба з гадоўлі выкідаць. Ведама, што за маладую авечку ня можна прыпускаць да барана, бо ягнё будзе кволае, ня ўдалае бо недаразьвітае.

На расплод можна трымаць авечку да 6 гадоў, барана—да 7 гадоў. Старшыя штукі трымаць ужо ня можна, бо яны выціраюць сабе зубы, пашу не перагрызаюць (не пераважоўваюць), кепска пераварваюць. Старыя авечкі трымаць не аплаціцца: іх трэба або прадаць на мяса і аўчынку або самому іх зарэзаць.

Гаспадары найчасьцей веку авечак ня знаюць, бо не запісваюць дня нараджэньня ягнят. Купляючы авечку на рынку ня можна даведацца колькі ей гадоў, таму ніжэй падаемо, як пазнаць век авечкі па зубах.

Авечка мае 32 зубы, з чаго 24 кутнія і 8 разцоў, г. зн. пярэднія. Кутнія зубы разьмешчаны ў абедзьвюх ськівіцах, а разцы толькі ў сподняй; верхняя ськівіца замест зубоў мае толькі храсьцец. Век авечкі пазнаецца па разцох. У ягняці спачатку вырастаюць толькі зубы малочныя або ягнячыя, якія пасьля вывальваюцца, а на іхняе месца вырастаюць ужо зубы сталыя, або авечыя. Зуб авечы складаецца з трох часьцей: караня, шыйкі й лапаткі. Карэнь знаходзіцца ў дзясьне, шыйка лучa карэнь з лапаткаю, якая знаходзіцца на самым версе.

Усе восем зубоў-разцоў, па якіх пазнаём век авечкі, дзелім на крайнія, сярэднія вонкавыя, сярэднія нутраныя і зачэпкі або абцугі.

Ягнячыя зубы дробныя і на іх значная шыйка, а праўдзівыя авечыя зубы нязначна пераходзяць у шыйку з караня.

Ягнё родзіцца зусім без разцоў або з аднэй толькі параю і вельмі рэдка з трымя парамі. Да трох тыдняў ягнё мае ўжо тры пары разцоў (зачэпкі й сярэднія), чацьвертая пара вырастае між 3-5 тыднем жыцьця ягняці.

Век дарослай авечкі пазнаем тады, калі малочныя зубы заменьваюцца на зубы сталыя ці авечыя.

Калі ягнё мае 11 - 12 месяцаў (год), дык зубы йшчэ ўсе малочныя, але ўжо вельмі рэдкія і вяршкі зусім сьцёртыя.

У першым годзе вывальваюцца ягнячыя зачэпкі, а на іхняе месца вырастаюць белыя шырокія зубы праўдзіва авечыя, якія да $1^1/_2$ году вырастаюць цалком.

Да двух гадоў вывальваюцца ягнячыя зубы ўнутраныя сярэднія, а праўдзівыя авечыя зубы вырастаюць да 2 з паловай гадоў.

Да 3-х гадоў гэта самае робіцца з малочнымі ягнячымі зубамі вонкавымі і сярэднімі.

Да 4 ох гадоў крайнія ягнячыя зубы заменьваюцца на сталыя авечыя, а ў 4 з паловай гадох усе малочныя зубы бываюць ужо заменены на зубы сталыя.

У 5 тым годзе сьціраюцца верхнія краі ўсіх разцоў. Да гэтага часу ўсе зубы прытуліліся шчыльна да сябе, лапаткі іхнія высокія й шырокія.

У 6-тым годзе сярэднія зубы быцам разыходзяцца, паміж іх творыцца шчэрбіна, лапаткі зачэпак крыху сьцёрліся.

У 7-ым годзе усе зубы радзеюць, а сярэднія лапаткі сьціраюцца.

У 8-ым годзе лапаткі сьціраюцца на ўсіх зубах, якія робяцца вузейшымі і радзейшымі.

Усё гэта прыняўшы пад увагу бачым, што найздаравейшыя зубы мае авечка на 5-тым годзе і да гэтага часу можна трымаць іх на расплод, калі хочам мець добры прыплод. Рэшту трэба збываць.

**Інж. М. Д.**

**Увага!** **Увага!**

## Зьмена адрэсу!

Ад 10-га сьнежня сёлета рэдакцыя **«САМАПОМАЧЫ»** перанесена з дагэтуляшнягага памешканьня ў памешканьне новае і месьціцца

**пры вуліцы Завальнай 1.**

Туды трэба і накіроўваць усякую карэспандэнцыю.

krajovym instytucyjam z tym, kab jany ŭžo sami na miascoch parabili pryrezy dla haspadarak małych abo arhanizavali samavystarčalnyja haspadarki novyja dla dahetulašnich sialan biezziamielnych i ziemlarobskich rabotnikaŭ. Arhanizavana było hetak 66 000 novych sialanskich haspadarak, 1 .000 ramieśnickich pradprycjemstvaŭ, 46.000 parcelaŭ na pradmieściach. — Heta apošniaje było pryčynaju vialikaha ŭzrostu budaŭlanaha ruchu: ad 1920 da 1929 h. było pastaŭlena 341.000 budynkaŭ na ziemlarobskija patreby.

### Fachovyja arhanizacyi i aśvieta.

Choć da vajny ŭsia siahońniašniaja Łatvija mieła šmat fachova-ziemlarobskich arhanizacyjaŭ i kooperatyvaŭ, to adnak pry svajej sobskaj tolki ŭładzie pačałosia poŭnaje ŭ ich žyćcio. Adnačasna ŭzrastaŭ lik arhanizacyj i kooperatyvaŭ novych. Svaja sobskaja ŭłada vielmi cikavicca arhanizacyjnym žyćciom ziemlarobstva i čynna jaho ŭspamahaje. Pry universytecie ŭ Ryzie jość fakultety: ahranamičny (ziemlarobski), lasny i veterynaryjny, na jakich u 1935-36 h. było 1.085 studentaŭ. Kali pryniać, što ŭsiaho nasielnictva Łatvija maje tolki niacełyja 2 mil.*), dyk hetki lik studentaŭ treba pryniać jak vielmi vysoki. Ziemlarobstvu taksama služa fakultet kulturnaj inžynieryi (melioracyjny).

Apryča školaŭ vyšejšych jość u Łatvii siańnia jšče 5 haspadarskich škoł siarednich (4-hadovych) z 680 vučniami (1935-36 h.); 30 fachova-ziemlarobskich škoł (2-hadovych) z 987 vučniami; 4 školy aharodnickija z 200 vučniami; 1 škoła sadoŭnickaja z 74 vučniami; 6 škoł dla haspadyniaŭ z 291 vučanicami; 3 školy laśnickija z 122 vučniami; 8 škoł małačarskich i žyviołahadaŭlanych z 157 vučniami, 1 narodny universytet z 100 vučniami i 5 škoł dla ziemlarobskich rabotnikaŭ. Całkom u 1935-36 šk. hodzie ŭ Łatvii, nie rachujučy škoł vyšejšych, byli 63 fachova-ziemlarobskija školy z 2.661 vučniami.

Nad pašyreńniem ziemlarobskaj aśviety paza školaj pracuje Ziemlarobskaja Pałata. U 1935 hodzie ŭ Łatvii było sarhanizavana 1051 roznych kursaŭ i 1986 fachova-ziemlarobskich schodaŭ.

U pašyrańni ziemlarobskaje aśviety paza školaj vialikija zasłuhi pakłała i ciapier kładzie arhanizacyja ziemlarobskaj moładzi — Mazpulki — jakaja ŭ 1935 h. mieła 570 miascovych hurtkoŭ pa ŭsiej Łatvii.

Pracami nad padniaćciem ziemlarobskaj aśviety ŭ Łatvii kiruje Ziemlarobskaja Pałata pry ŭčaści 1240 specyjalistaŭ z roznych halin ziemlarobstva.

Ziemlarobskaja aśvieta ŭ Łatvii apirajecca na pracy daśledčych (probnych) stancyj kazionnych i pryvatnych. Kožnaja vyšejšaja haspadarskaja škoła (ahranamičnaja, laśnickaja, veterynaryjnaja) majuć svaje daśledčyja, a razam i prykładnyja haspadarki. Akramia taho Ministerstva Ziemlarobstva ŭtrymoŭvuje daśledčuju stancyju

*) Hetulki jak naša Vilenščyna i pałova Navahradčyny.

## Чаму карова не заплоджваецца.

З усіх старон даходзяць чуткі, што каровы часта не заплоджваюцца.

Найчасьцейшай прычынай гэтага бывае катар похвы і маціцы, прычынай якога зьяўляюцца бактэрыі, якія перадаюцца ад бугая. Бывае гэта найчасьцей у бугаёў „танных,“ а лепш сказаць—хворых.

Адзнакі хваробы звычайна бываюць гэткія:

На другі ці трэці дзень карова стараецца аддаць моч, аднак бяз скутку. Моч выходзіць каплямі, затое больш выцякае сьлізу, перамешанага з ропаю. Похва чырванее, похне, а ўсярэдзіне пакрываецца бледна-жоўтымі вадырамі, якія лопаюць і адсланяюць ранку. Хвароба разьвіваецца зразу ў похве, але хутка перанос цца далей, глыбей — у маціцу.

Тут паўстае ропнае запаленьне маціцы, якое можа цягнуцца вельмі доўга і ніколі само сабой ня пройдзе. Карова дастае гарачку, становіцца неспакойнай, траціць малако і вельмі хутка худзее, хоць есьць нармальна.

Іншым разам гніль дастаецца з похвы ў мачавы пузыр, становячыся прычынай крывавага запаленьня мачавога пузыра Карова тады сільна горбіцца, з трудом мочыцца, пры чым моч ад дамешкі крыві становіцца чырвонай.

У абодвух выпадках хвароба можа тымчасова прыціхнуць, карова ўздымаецца, „бегае,“ але заплодніцца ня можа.

Падобная справа бывае і з каровай, якая па ацяленьні добра ня счысьцілася...

Якая-ж на ўсё гэта можа быць рада?

У першым выпадку — ніколі ня гнацца за бугаём „танным,“ а нават не зашкодзіць разведаць і аб найлепшым бугаі, ці па ім якаянебудзь карова не захварэла. Таксама ўласьнікі бугаёў павінны дбаць аб тое, каб таксама каровы прыводжаныя да іхняга стадніка (бугая) ня былі хворымі і гэтак не заразілі самага бугая.

Калі-ж здарыцца выпадак затрыманьня пасьлярадовага лагва, дык ні ў якім выпадку не пазваляць выцягваць яго „практычным“ дарадчыкам, а толькі клікаць на гэта лекара-вэтэрынара.

Лячыць заражаныя штукі скаціны ня ёсьць справа лёгкая і таму ў такіх выпадках найлепш зьвярнуцца да лекара-вэтэрынара.

У сьвежых выпадках звычайна памагае прапаласківаньне похвы і маціцы каровы растворам галуну, надманганам потасу (*kalium hypermanganicum*) ці іншых сьцягіваючых, а разам дэзынфікуючых лекаў распушчаных у вадзе ў прапорцыі 1:1.000—3.000.

**Др. Р. Л.**

### Два гады ўжо выходзяць „Wiadomości Białoruskie,“

якія стала інфармуюць польскую прэсу і ўсе найвышэйшыя ўстановы ў Польшчы аб беларускім жыцьці, аб нашай долі і нядолі. Акрамя падзеяў агульна беларускіх, „Wiad. Biał.“ зьмяшчаюць і праверaныя матарыялы з жыцьця нашай вёскі. Дык пішэце ў рэд. „Wiad. Białoruskich“ (Вільня, Завальная 1) карэспандэнцыі аб цікавых здарэньнях з беларускага жыцьця ў Вашай ваколіцы. Пісаць можна па-беларуску і папольску.

## Што гэта такое „бэконавая сьвіня“.

Шмат хто думае, што корманая сьвіня, абы толькі здаровая, клустая і добра выкармленая — можа быць прадана на рынку па найвышэйшай цане. Сапраўды аднак так добра ня бывае, бо вымаганьні рынку неаднолькавыя. Часта на адным і тым-жа рынку спатыкаем купцоў, якія шукаюць самага толькі тавару лёгкага, расавага (заводнага), або падпраўленага, або такіх, для каторых лёгкія сьвіні не прадстаўляюць вартасьці, а цікавяцца толькі таварам цяжкім.

Залежа гэта, як я ўжо успомніў, ад вымаганьняў рынку, залежна ад таго, ці гэта рынак краёвы ці заграінчны. На рынку краёвым шукаюць перад усім тавару цяжкага, з грубой саланінай, бо насельніцтва тут спажывае шмат сьвіннога сала і значна менш мяса. Падобна і ў іншых краёх. У шмат краёх аднак, куды Польшч вывозіць сьвінны тавар, шукаюць тавару перад усім лёгкага, мяснога, бо насельніцтва тамтэйшае значна больш цэніць сьвінное мяса чым сала, якое там уважаюць хутчэй як другарадны прадукт убою сьвіней. Да такіх краёў належыць Англія, Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі і рад іншых, меншых краёў, у каторыя Польшч вывозіць шмат сьвіннога тавару, выгадаванага і выпрадукаванага ў краю.

Ад гэтага экспорту ў значнай меры залежа аплатнасьць сьвінагадоўлі ў Польшчы і таму трэба гадаваць сьвіней як такіх, якія патрэбныя ў краю, так і такіх, якія

dziela asušeńnia bałatoŭ, stancyju dziela hadavańnia zavodnaha nasieńnia, žyvioły i inš.

### Ziamielnaja palityka.

Da 1930 h. ziamielnaja palityka Łatvii ŭ šmat kirunkach była padobnaj da takoj-ža palityki Danii. Da henaha hodu Łatvija źviartała vialikuju ŭvahu na vyvaz małačarskich pradu ktaŭ i bekonaŭ, a pryvaziła šmat roznaha zboža. U 1930 h., dziela abnižki cenaŭ na ziemlarobskija pradukty na rynku suśvietnym i ŭ Łatvii, ułada pastanaviła zabiaśpiečyć svaim sialanam apłatnaść ichniaje pracy i vykupiła ŭ ich liški zboža pa cenach ćviordych, vyšejšych čymsia byli tady na volnym rynku. Hetki pastupak ułady zaachvociŭ tamašnich sialan da šyrejšych zasievaŭ zboža. Dziakujučy hetamu Łatvija nia tolki pierastała kuplać dla siabie zboža zahranicaj, ale ad 1932 h. łatvijskaje zboža źjaviłasia ŭžo i na rynku zahraničnym.

Jašče raniej čym stacca samavystarčalnaj u zbožy, stałasia Łatvija samavystarčalnaj u... c u k r y. Pačynanyja ŭ hetym kirunku proby jšče raniej vykazali, što cukrovy burak u Łatvii raści moža. Na hetaj padstavie ŭžo ŭ 1925 h. Łatvija pačynaje budavać cukravarski promysieł. Pieršaja cukravarnia ŭ Łatvii pačała pracavać užo ŭ 1926 h., a siahońnia pracuje tam užo až try cukravarni.

Specyjalnaściu Łatvii adnak addaŭna jość l o n, jakim absiavajecca płošča až 68.000 ha.

Razam z uzrostam płoščy absievu, padyjmajecca j lik hadavanaj žyvioły. Najbolš (85 prac.) prybyło śviniej i skaciny (40 prac.). Ličby hetyja adnosiacca da 1935 h., u paraŭnańni z h. 1923-cim.

Siahońnia Łatvija źjaŭlajecca važnym praducentam małaka i małačarskich praduktaŭ. U 1936 h. z Łatvii było vyviezienа 17.291 tonna*) masła. Łatvija staić siahońnia na 8 ym miescy pamiž krajoŭ, jakija vyvoziać masła, a na druhim miescy pavodle mnostva litraŭ vypradukavanaha małaka na 1 žychara kraju (na 1-šym miescy staić Danija).

Asablivaściu sučasnaj Łatvii jość

### Niastača pracoŭnych ruk

dziela pracy ŭ ziemlarobstvie Dźvie na heta złažylisia pryčyny: mnoha ruk zabrała na zaŭsiody vajna, a pierad usim toje, što ŭsie volnyja kaliści ruki dastali pry ziamielnaj reformie adpaviedny nadzieł i pracujuć na svaim sobskim zahonie.

Dobraj prymietaju łatyskich haspadarak ziemlarobskich jość ichniaja małaja zadoŭžanaść (u siarednim 73 łaty na ha).

— Usio heta razam uziataje dobra pakazvaje, što značа, kali narod choć mały, ale śvietły, kulturny i žyvie svaim sobskim, niezaležnym žyćciom.

*) u adnej tonnie jość 1.000 klh. abo 61 pud.

дастасаваныя да вымаганьняў рынкаў заграничных. У першым выпадку, г. зн. на ўнутраныя патрэбы краю, прадукаваць будзем сьвіні цяжкія, саланінавыя, а ў другім, на вываз, будзем гадаваць сьвіней лёгкіх, мясных.

Тут хачу пагаварыць, хоць пабежна, аб спосабе гадаваньня сьвіней лёгкіх, празначаных на рынак ангiлiцкі, а называных сьвінямі бэконавымі. Прад усім адкажам на пытаньне: што гэта такое сьвіня бэконавая?

З большага можна сказаць, што гэта сьвіня расы ангiлiцкай або прынамся ангiлiцкай крывёй падпраўленая (падрасаваная). Не павінна быць старэйшая 7-мёх месяцаў. У будове павінна адпавядаць дакладна азначаным разьмерам, прадбачаным у нормах гэтак званае стандарызацыі. Аднэй з найважнейшых азнакаў будовы бэконавай сьвіні ёсьць ейная даўжыня. Чым бэкон даўжэйшы, тым ён лепшы, аднак з варункам, што й іншыя азнакі будовы будуць адпаведныя да вымогаў. А знача хрыбёт павінен быць просты, роўны, таксама роўныя павінны быць бакі, з выпуклымі (круглымі) жэбрамі, і ня могуць быць лішне глыбокія. Кумпякі (шынкі) бэкона павінны быць добра выпаўненыя мясам. Брух павінен быць грубы і роўны, але ні ў якім выпадку ня можа ён быць ані абвіслы, ані запаўшы.

Акрамя таго гадоўца бэконаў павінен зварочваць увагу, каб галава, шыя і лыч бэкона былі як толькі можна лёгкія, бо гэта гварантуе меншую вагу адпадкаў пры забіцьцю. Ногі бэкона ня могуць быць лішне кароткія, затое павінны быць моцныя і шырака ад сябе расстаўленыя. Скура мусіць быць белая, чорныя плямы не дапускаюцца, шчаціна павінна быць густая і таксама белая.

Толькі сьвіні гэтак збудаваныя могуць быць прызнаны як бэконавыя. Гэткіх сьвіней колющь і адпаведна перарабляюць у спэцыяльных фабрыках званых бэконярнямі, а пасьля пад назовай бэкону высылаюць у Англію ў такім стане, каб яны ўжо маглі вытрымаць дальшы транспарт.

Толькі добры бэкон, які адпавядае варункам азначаным стандарызацыйнымі пастановамі, можа высылацца заграніцу. А добры бэкон можа быць толькі ў такім выпадку, калі сырэц ужыты да вырабу яго, гэта знача бэконавая сьвіня будзе такой, як яна апісана вышэй. Знача мяса бэкону павінна быць ядраное, ружовае, неператлушчанае; гэткае мяса можна атрымаць з сьвіні не старэйшай як 6—7 месяцаў. Саланіна, якая прылягае да мяса, мусіць быць усюды роўная што да грубіні, павінна быць цьвёрдай, бяз лоску, хутчэй матовая. Найважнейшае аднак, каб была роўная і таму якраз купец, які скупляе бэконавы тавар, вымагае, каб хрыбет сьвіні быў роўны і просты.

Бачым, як вялікае значэньне мае будова сьвіні, калі ад гэтага залежа якасьць бэкону. Дзеля таго кожны гаспадар, які гадуе або думае гадаваць добрых бэконаў, павінен крыць сваю сьвіню-матку (мацёру), незалежна ад таго ці яна расавая (заводная) ці не — добрым кнуром ня іншай як толькі ангiлiцкай расы, бо гэткі толькі кнур у будове сваей можа мець такія своиасьці, якія патрэбны пры гадоўлі бэконаў. Гаспадар, які сьвіню сваю крые добрым ангiлiцкім кнуром, мае права спадзявацца, што і парасяты па такім кнуры будуць мець добрую будову, а знача будуць надавацца на бэконы.

Натуральна, якасьць бэконаў у вялікай меры залежа таксама ад способу кармленьня, які мусіць быць дастасаваны да патрэбаў маладога арганізму парасяці празначанага на бэкона. Кармленьне такога парасяці павінна быць сільным ад самага пачатку, ад часу адстаўленьня парасяці ад маткі, і бяз ніякіх перарываў аж да самага канца, г. зн. да часу, калі гэткі бэкон пацягне 85 клг. жывой вагі, калі ўжо павінен быць прададзены.

З пачатку галоўным кормам бэконавых сьвіней павінна быць толькі збожа і поснае малако (спад цэнтрагонкі), і толькі пасьля можна ступянёва павялічаць порцыі бульбы ці якой пашы зялёнай. Трэба аднак заўсёды памятаць, што порцыі бульбы ня могуць быць за вялікія, бо пры гэткім корме мяса прарастае тлушчам, нарастае саланіна, а гэта псуе вартасьць бэкону. Таксама ад лішне вялікіх порцыяў корму зялёнага мякчэе саланіна, чым псуецца і якасьць бэкону.

**Р. Мрошчык.**

*„Tyg. Roln.“*

---

Інж. Ад. Клімовіч.

# Асновы земляробскай эканомікі.

14)

## IV. Земляробская рахунковасьць.

*Аснаўныя панацьці.*

Калі мэтай гаспадаркі ёсьць асягнуць магчыма большы чысты прыбытак, дык заданьнем рухунковасьці ёсьць гэты прыбытак вылічыць. Дзеля абліченьня чыстага прыбытку мала самых толькі зацемак аб прыходах і расходах грашавых ці гэтак званай *касавай кнігі*. Вядзеньне самай толькі гэткай кнігі аднак ня дасьць яшчэ абразу гаспадаркі з наступных прычын:

а). У касавай кнізе не адбіваюцца ўсе зьмены, якія на працягу году праходзяць у гаспадарцы; у ёй між інш. не азначаны зьмены, якія праз год станоцца ў хляве, у пуні, у сьвірне. Большы прыход за прададзеную жывёлу ці за збожа можа аказацца меншымі запасамі гэтае-ж маемасьці ў хляве і ў сьвірне, — і наадварот. Грошы выдадзеныя на куплю якой-небудзь снасьці ці машыны не прападаюць яшчэ з гаспадаркі, бо яны знайдуцца якраз пры падлічэньні і ацэнцы мёртвага інвэнтара (машын і снасьці).

б) частка земляробскіх прадуктаў не прадаецца, бо спажываецца ў самай-жа гаспадарцы, а гэтай часткі пладоў земляробскай вытворчасьці з касавай кнігі якраз ня відаць.

Урэшце

в) у касавай кнізе зусім не азначана належная адплата за працу ўсае сям'і для гаспадаркі.

Усё гэта змушае кожнага гаспадара земляроба, які хоча ведаць „на чым сядзіць“, апрача касавай кнігі вясьці яшчэ кніжкі (зацемкі) іншыя, каторыя ўсе разам састаўляюць сыстэму рахунковасьці.

Гаспадарка гаспадарцы ня роўная. Ня роўныя гэткіх гаспадарак і запатрэбаваньні. Падчас калі ў большай гаспадарцы трэба вырахаваць асобна, колькі каштуе напр. вядзеньне гаспадаркі малочнай, выкормліваньне сьвіней, цялят, вагоў, колькі гэтыя часьці гаспадаркі даюць прыходу, дык для гаспадаркі меншай, а тымбольш для малой зусім хопіць ведаць, ці і колькі дае ўся гаспадарка за год даходу або прыносіць які недабор. У сувязі з гэтым можна гаварыць аб

1. рахунковасьці падвойнай і
2. рахунковасьці простай.

Усе нашыя зацемкі аб арганізаваньні і вядзеньні гаспадаркі адносяцца да гаспадарак дробных, таму й тут будзем гаварыць і аб рахунковасьці адпаведнай да гэткіх гаспадарак, г. зн. аб рахунковась ці п р о с т а й.

Да вядзеньня гэткай простай рахунковасьці ў

## Бульба-сьпірт-каўчук

Год з лішнім таму назад даведаўся сьвет аб дзівах вялікіх: італьянцы выдумалі выраб штучнай воўны... з малака. А сягоньня маем новае „дзіва:“ у Польшчы будуць вырабляць каўчук... з сьпірту, які, як ведама, найбольш вырабляецца з бульбы. Дзеля таго, што беларускія сяляне так-жа садзяць і гадуюць шмат бульбы, дык справа гэта павінна іх так-жа жыва абходзіць. Узрасьці тады павінна запатрэбаваньне на сьпірт, паўстаць павінны новыя броварні, якія скуплівалі-б бульбу, плацячы за яе та кія цэны, якія аплачвалі б ейную гадоўлю. А гэта, натуральна, ня можа астацца бяз уплыву на цэласьць гаспадаркі нашых сялян. Праўда, самыя фабрыкі каўчуку будуюцца ад нас далёка, у ведамым нам ужо С.О.—S. (Цэнтр. Прамысловым Вокрузе) Таму й найбольшую карысьць з гэтага будуць мець тамашнія паляні. Да таго ж, хто ведае, як уладзяцца варункі даставы бульбы ў броварні. Міма ўсяго гэтага аднак сама магчымасьць ажыўленьня ў гэтым кірунку заслугоўвае на ўвагу і на пазнаньне прынамся ў агульных рысах.

Каўчук натуральны, як ведама, гэта сок з гумовага дрэва, якое расьце ў гарачых краёх. Блізу 80 прац. гэтага каўчука йдзе на фабрыкацыю калёсаў да аўтамабіляў, ровараў і г. д. Спачатку ўсе краі прывозілі гэты каўчук натуральны. Пасьля аднак заўважылі, што апіраць краёвы промысел на такім прывозе — гэта рэч і дарагая і вельмі няпэўная. Таму ўсе народы пачалі думаць, як-бы такі каўчук вырабляць у сябе ў краю. Гэтак сабе абяцалі яны „адным разам забіць двух зайцаў:“ пакінуць у краю грошы, якія прад тым выдаваліся на куплю каўчуку (Польшч у 1935 г. выдала на каўчук 10 міл. зл.) і мець даволі каўчука на выпадак вайны, калі давоз каўчука можа быць адцяты. Першымі, хто пачалі вырабляць у сябе штучны каўчук, былі Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі. Вырабляе яго сягоньня Нямеччына, а хутка мае пачаць вырабляць і Польшч. Кожны з гэтых краёў інакш свой штучны каўчук называе і іншага да яго нага вырабу ўжывае матар'ялу (сырца). Польскі штучны каўчук будзе называцца „кер“ і вырабляцца, як ужо сказана наперадзе, з сьпірту.

Дагэтуляшнія абрахаваньні паказалі, што для атрыманьня 1 клг. керу трэба 6 літраў сьпірту. Дзеля таго, што Польшч у 1935 г. прывезла 5 000.000 кілёграмаў каўчуку, дык для выпрадукаваньня на месцы гэткага-ж мноства керу трэба будзе 30.000.000 літраў сьпірту. Гэтак выраблены кер каштуе за кілё 3 зл., тады як кілё каўчуку натуральнага каштуе 2 зл.

Што ўсё гэта можа прынесьці нашаму беларускаму сялянству ў Польшчы?

На абшары Віленшчыны пад бульбай было дагэтуль 10 прац. грунтоў, на абшары Навагрудчыны - 12 прац. У абсалютных лічбах ураджай бульбы на абшары гэтых двух ваяводзтваў выносіў 27 254.519 q. Калі абшар абсеву павялічыць да 15 прац. (у Пазнаншчыне бульбай абсейваецца 20 прац. агульнага абшару), дык тады ўраджай можа даць бульбы 40 мільёнаў q, з чаго 13.000.000 q бульбы можа быць прызначана на выраб сьпірту. З 100 клг. бульбы выраб ляюць 10 літраў сьпірту, а з 13 міл.q. можна вырабіць 130.000.000 літраў сьпірту.

Дык, прыймаючы ўсё гэта пад увагу, трэба каб і наш беларускі селянін так кіраваў сваей гаспадаркай, каб магчы ўжо ў найбліжэйшай будучыні ўмясьціць у севазвароце па магчымасьці больш акопнінаў: цана на іх падыходзе. **Я.**

## Гаспадарская хроніка

**Гаспадарская конфэрэнцыя.** З прычыны адчыненьня ў Вільні будынку П.К.О., 11 г. м. адбудзецца тут гаспадарская конфэрэнцыя з учасьцем міністра скарбу Кватkоўскага. Каторая ўжо гэта конфэрэнцыя?

**Зьбіраюцца будаваць.** Час ад часу аблятаюць весткі, што на абшары Віленшчыны і Навагрудчыны мае быць збудавана колькі чыгуначных ліній. Весткі гэтыя вельмі йшчэ няпэўныя і таму раз кажуць аб спалучэньні Наваельні з Навагрудкам, іншы раз—Ашмяны з Варапаевам і г. д. Адно пэўнае пры гэтым, што ўсе праектованыя чыгункі абмінаюць Вільню, як свой прыродны дагэтуль цэнтр гаспадарскі і сьцягваюць усё жыцьцё ўніз, на паўдзень, шукаючы гэтак цэнтру новага, які ляжыць увонках нашых зямель. А гэта на дабро гэтым землям мусіць ня выйдзе.

**Бойня і мясная фабрыка.** 11 г. м. у Новай Вялейцы пад Вільняй адчыняецца новая сьвінабойня і мясная фабрыка кансэрваў і бэконаў. Новая гаспадарская пляцоўка паўстала дзякуючы думцы прыватнай. Фабрыка перарабляць будзе каля 60.000 штук сьвіней у год.

---

земляробскай гаспадарцы, апрача кнігі касавай, у каторай запісваюцца ўсе прыходы і расходы грашмі, патрэбны йшчэ гэткія дадаткі:

а) сьпіс усяе маемасьці гаспадаркі (інвэнтура) на пачатку й на канцы году,

б) запіскі аб тым, колькі прадуктаў з уласнае гаспадаркі было спажыта ў гаспадаровай хаце, або каму выданых паводле ўмовы без прыняцьця ад яго якой-небудзь заплаты, а так-жа аб тым, якія і колькі такіх прадуктаў у гаспадарку было прынята.

в) запіскі аб тым, хто з сям'і гаспадаровай (акрамя яго самога) і колькі (ў працаднёх) улажыў у гаспадарку працы.

Завядзеньне ў простай земляробскай рахунковасьці вышэйназваных дадатковых (памоцных) кнігаў мае на ўвеце асобна прадставіць гаспадарку земляроба як такую, і асобна — ягонае прыватнае жыцьцё. Гэткі пагляд на земляробскую рахунковасьць сягоньня пачынаюць ужо сям-там прызнаваць няправільным. Тымчасам новае сыстэмы земляроб. рахунковасьці яшчэ аднак няма і таму „пастарому“ ў кожнай найменшай хоць-бы такой гаспадарцы будзем разглядаць прынамсі дзьве асобныя гаспадаркі: гаспадарка сама як цэласьць і прыватная хата гаспадара. Што належа да аднаго, не належа да другога.

На астатак колькі слоў аб самым вядзеньні рахункаў і асабліва аб выкарыстаньні ягоных вынікаў.

Вядзеньне рахунковасьці да нядаўна лічылася прывілеем нязначнай толькі жменькі людзей. Згэтуль паходзіць і той страх большасьці нашых—і ня толькі нашых! — гаспадароў прад пачынаньнем працы над вядзеньнем рахунковасьці. Страх гэты ў нашым выпадку аднак неабаснаваны. Праўда, што „ня вучачыся не спляцеш і лапця“. Аднак простая рахунковасьць сапраўды даступная кожнаму, хто мае да гэтага добрую волю і патрапіць у адпаведную рубрыку ўпісаць раз за тыдзень хоць-бы ўсе здарэньні з свае гаспадаркі, нотуючы іх прад тым штодзень(!) у звычайным сшытку.

Не аднаму можа пакащацца перашкодай і тое, што нават сама простая земляробская рахунковасьць не аднолькавая ў розных да гэтага прызначаных падручніках. Так! Яна не аднолькавымі дарогамі йдзе, хоць да аднэй кіруецца мэты — да вылічэньня чыстага прыбытку з гаспадаркі за час гаспадарскага году.

Ніжэй пададзены спосаб простай земляробскай рахункoвасьці абапёрты на досьледах перадавых працаўнікоў на полі гаспадарскай эканомікі ў краю і заграніцай. Год гаспадарчы прадбачыцца ад 1 ліпня аднаго календарнага году да 30 чэрвеня году наступнага.

Калі-б хто вядучы рахунковасьць па пададзенай мэтодзе меў якія труднасьці, асабліва пры замыканьні рахункаў за пройдзены гаспадарскі год, таму радай ахвотна дапаможа рэдакцыя „Самапомачы.“

*КУТОК ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ.*

## Як выкарміць хатнюю птушку.

Куры гадуюцца ў нас найчасьцей дзеля прадукцыі яёк. Але час носнасьці курэй даволі кароткі, трывае звычайна толькі 2 гады (ня лічачы году, у якім самі выйшлі з яйка), пасьля чаго лічба зношаных яёк хутка малее, так што ўласьціва даўжэй трымаць курэй не аплаціцца і іх трэба прадаць на мяса. Мяса курэй належа да гатунку г. зв. мяса белага і ёсьць смашнае, лёгка страўнае і пажыўнае і дзеля таго яго часта даручаюць есьці лекары пры некаторых хваробах. Расол з курыцы таксама в. добра. Дзеля ўсяго гэтага куры добры выкармленыя гэта вельмі шуканы тавар у местах як у нас, так і заграніцай.

Штогод таксама вывозім на чужыя рынкі значную колькасьць як курэй так і куранят, гусей, качак, індыкоў і г. д. Ня можна аднак сказаць, што земляроб атрымоўвуе за мясную птушку высокую цану. Віна гэтага ў тым, што земляроб пераважна прадае птушку лёгкую і худую. Мяса з птушкі худой бывае ня гэтак смашнае, як з птушкі выкарменай, бо цьвёрдае і лыкаватае, мае ў сабе шмат вады, а мала бялкоў і туку. Заграніца-ж худой птушкі зусім ня хоча купляць.

Натуральна, каб атрымаць лепшую цану за мясную птушку, трэба яе высылаць на рынак у стане выкармленым, а ня худым. Трудным гэта ня ёсьць. На мяса прадаецца птушка звычайна тады, калі кончыцца пара носнасьці, а знача познай восеньню, або ўзімку, калі земляроб мае больш часу і можа заняцца кормам. Трывае гэта каля двух тыдняў, назваць яго дзеля таго трудным ня можна.

Дзеля таго, што худое мяса мае ў сабе шмат вады, а за мала тукаў і бялкоў, кормленай птушцы трэба даваць пашу, якая ў сабе больш мае іменна гэтых складнікаў. Вельмі добрыя вынікі дае паша складзеная з 30 часьцей на вагу грубой мукі ячменнай, 30 часьцей такой-жа мукі аўсянай, 30 часьцей — кукурызнай і 5 часьцей мукі мясной. Разводзіцца ўсё гэта у салодкім посным малацэ і даецца курам двойчы ў дзень у чыстых карытцах. Муку кукурызную, дзе яе няма, можна замяніць якой-небудзь іншай, збажовай. Малако дае вельмі добрыя вынікі і падыймае якасьць мяса. Бульбу для птушак празначаных на мяса можна даваць у колькасьці агранічанай дзеля таго, што займае яна шмат месца, а вальлё курыцы можа памясьціць адносна мала. Дзеля таго куры кормленыя бульбай хоць і будуць сытыя то аднак і ня ўкормяцца.

Выкормліваньне пойдзе лягчэй, калі пры гэтым будуць захоўвацца пэўныя прадпісаньні. Як ведама, куры з натуры сваей бываюць вельмі рухлівыя, бо ў дзікім стане яны мусяць вышуківаць страву самі сабе. Калі ў нармальнай гадоўлі рух патрэбны бывае дзеля здароўя, дык пры выкормліваньні на мяса рух гэты бывае перашкодай і курыца клусьцее павальней. Дзеля гэтага рух выкормліваных на мяса курэй трэба агранічыць. Таму куры такія празначаныя на мяса памяшчаем асобна, у цяплейшым месцы, найлепш у катуху ці ў абшырнай клетцы. Корм трывае коратка, каля двух тыдняў і агранічэньне руху птушкі на колькінаццаць дзён не адаб'ецца кепска на ягоным здароўі.

Натуральна, клетку такую трэба ўтрымаць чыста, каб у ёй не загнезьдзіліся шкоднікі, якія непакояць птушку і перашкаджаюць выкормлівацца. Таксама трэба забясьпечыць даплыў сьвежага паветра, без каторага ніякае жывое стварэньне існаваць ня можа.

Да выкормліваньня надаюцца штукі як маладыя так і старэйшыя, куры і пеўні. Старшыя штукі трэба канешна выкормліваць, бо ад гэтага падыймаецца якасьць мяса, якое тады можна гатаваць, і ў нічым ня ўступае курам маладым.

Кормленая курыца падыймаецца на вазе прыблізна на $^1/_2$ клг. Дзеля таго аднак, што цана кормленай штукі без параўнаньня вышэйшая, ды кармленьне яе можа вельмі добра аплаціцца.

*Паз.*

# Што чуваць на сьвеце

### Пад Нанкінам.

Нанкін — гэта сталіца новага Кітаю, гэта сымболь аб'еднанага кітайскага народу. Як вайсковы пункт гэта места мае значэньне малое. Японцы аднак пакладаюць усе сілы, каб гэтым местам завaладаць. Апошнія весткі з Далёкага Ўсходу падаюць, што пярэднія лініі японскага войска ўжо дайшлі да брамаў самага места і нават ужо занялі прадмесьце. Але сам горад яшчэ ў руках кітайцаў. Як доўга змогуць кітайцы бараніцца—аб гэтым вайсковыя знаўцы адклікаюцца даволі сцэптычна: паміма вялікага геройства, недастатак аружжа і амуніцыі доўга ім утрымацца хіба не пазволіць. Тым ня менш сілы самай арміі кітайскай яшчэ далёка не пабітыя і чым урэшце кончыцца ўся гэта бязлітасная бойня — трудна прадбачыць.

Апошнім часам газэты пішуць, што канцлер нямецкі Гітлер згадзіўся быць пасярэднікам паміж Кітаем і Японіяй на гэткіх варунках. Японія не забірае ніводнай пядзі кітайскай зямлі, але хоча толькі наладзіць „гаспадарскае супрацоўніцтва“ з Кітаем, 2. Кітай мусіць прыступіць да процікомінтэрнаўскага дагавору, 3. Японія забярэ сваё войска з кітайскай тэрыторыі. — Сутнасьць гэтай справы ў тым, што Японія й так мае ўжо досыць кітайскіх зямель, якія астануцца й так паза Кітаем як „незалежныя дзяржавы,“ якія трэба праглынуць. Таму Японія тымчасам можа „зрачыся“ дальшых абшараў і без таго могучы правам назваць Кітай сваей калёніяй. — Ці Кітай на гэта згодзіцца, пакажа хіба недалёкая будучыня.

### Палітычная падарож.

Міністр загранічных спраў Францыі Дэльбо ад канца лістапада сёл. знаходзіцца ў падарожы па сталіцах эўропэйскіх дзяржаў: Лёндон, Варшава, Бухарэст, Белград і Прага. Палітычныя кругі прыдаюць не без падстаў гэтай падарожы вялікае значэньне. У гутарках міністра Дэльбо ў Варшаве ўсплыла і справа калёніяў для Польшчы.

### З савецкіх краёў.

Найлепшыя знаўцы савецкіх адносін трацяць цяпер галовы ў домыслах аб тым, што дзеецца апошнім часам у Саветах. Арышты, расстрэлы нікога ўжо блізу ня дзівуюць. Характэрна пры гэтым для савецкай палітыкі загранічнай, што за апошніх колькі тыдняў зьменены ўсе савецкія паслы і амбасадары ў дзяржавах суседніх з Саветамі. — Уся ўвага Саветаў цяпер зьвернена на выбары, якія назначаны на дзень 12 г. м.

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *10.XII.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . | 22.50 – 24.00 |
| Пшаніца . . . . . | 27.50—28.50 |
| Ячмень . . . . . . . | 18.00—19.50 |
| Авёс . . . . . . . | 10.50—22.50 |
| Грачыха . . . . . . | 16 75 - 18.25 |
| Семя лянное Ь. 90% | 44.25 - 44.75 |
| Лён трапаны, Валож. | 1480—1520 |
| Лён трапаны, Гародзей | 1700 – 1760 |
| Лён трапаны Трабы . | 1460—1500 |
| Лён трапаны, Мёры | 1350—1390 |
| Лён часаны Гародзей . | 1460—1500 |

**Малочнае,** *30.XI.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | 3.60—3.70 |
| „ „ дэталь | —4.00 |
| Масла сталовае гурт . | 3.50 – 3.60 |
| „ „ дэталь | —3.90 |
| Сыр эмэнталь гурт. . . | —3.00 |
| „ „ „ дэталь | —3.60 |
| Сыр літоўскі гурт . . . | 2.15—2.60 |
| „ „ дэталь | 2.40—3.00 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 6.30—7.20 |
| „ ў дэталю за штуку | 11—13 гр. |

# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— Канцэрт Беларускай Песьні. У нядзелю 12 г. м. у Віленскім Унівэрсытэце (Заля Сьнядэцкіх, галоўны будынак) адбудзецца канцэрт беларускай песьні. У канцэрце выступіць ведамы сьпявак Міхал Забэйда-Суміцкі, тэнар опэры Міланскай, а так-жа заслужаны Беларускі Хор пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Пачатак а гадз. 20-тай.

— Беларускі Сялянскі Календар на 1938 г., бачын 112. Выданьне Беларускай Кнігарні „Пагоня". Год выданьня 2-гі. Календар зьмяшчае ў сабе агульныя весткі з жыцьця Беларускага Народу, а акрамя таго аддзелы сельскае гаспадаркі, гыгіены (лекарскія рады), аддзел праўны, практычных радаў, інфармацыйны, гумару (вершы, апавяданьні, загадкі, жарты) і ўрэшце абвесткі розных фірмаў гандлёвых і прамысловых. Цана календара: за штуку на месцы 50 грашоў, з перасылкай па пошце — 75 грашоў. Хто купляе больш календароў за раз, той атрымоўвае вялікія зьніжкі. Так-жа выданы новыя сьценкі да адрыўных календароў з партрэтамі беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. Цана кожнай сьценкі на месцы толькі 10 грашоў. Падробныя весткі аб варунках прадажы гэтых календароў-кніжак, як і беларускіх календароў адрыўных (блёкаў) высылае бясплатна Беларуская Кнігарня „Пагоня", Завальная вул. 1—2.

— Беларускія Раты. Прыкладам мінулых гадоў і сёлета Віленскія Беларусы-Каталікі ладзілі ў сераду 8 г. м. урачыстыя раты за памыснасьць працоўных мас м. Вільні. Раты адбыліся ў касьц. сьв. Мікалая а гадз. 7 мін. 30 рана.

## У Літоўцаў.

— Літ. Дабрадзейнае Т-ва замкнёна. Спыненае анагдай Літоўскае Дабрадзейнае Т-ва распараджэньнем Віленскіх Ваяводзкіх уладаў было анагдай замкнёна. Т-ва гэта апекавалася паміж іншым літоўскай, студэнцкай і рамесьніцкай моладзьдзю.

— Суд памыліўся. Сёлета вясной Гарадзкі Суд у Гдыні, а пасьля і Акружны (як Апэляцыйны) засудзілі старшыню б. Літоўскага Нацыянальнага Камітэту грам. К. Сташыса на 100 зл. штрафу з абвінавачаньня яго за дэвізовыя праступствы. Падсудны пасьля гэтага аднак адклікаўся ў Суд Найвышэйшы, які пастановы першых двух судоў скасаваў і загадаў разгледзіць усю справу нанова.

## У Палякоў.

— Нарада Сойму й Сэнату. Ад 1 г. м. вядуцца нарады звычайнай бюджэтнай сэсіі Сойму і Сэнату. Дагэтуль з боку ўраду з доўгай (трыгадзіннай) прамовай выступаў віцэпрэм'ер Квяткоўскі. Спаміж пасольскіх выступленьняў на ўвагу заслугоўвае прамова ген. Жэлігоўскага, які высказаўся проціў ведамага ўрадавага наказу аб тым, што ў Польшчы першай асобай па Прэзыдэнце Рэспублікі павінен быць маршал Сьміглы. Гэты паступак ураду ген. Жэлігоўскі назваў неконстытуцыйным. Акрамя таго ген. Жэлігоўскі выступіў проціў тактыкі ОЗН-у на грунце Сойму, а так-жа дамагаўся, каб урад не рабіў перашкодаў польскай „Людовай Партыі". — Аб патрэбах свайго выбарнага вокругу (Віленска-Троцкі павет) генэрал Жэлігоўскі сказаў толькі, што мясцовае сяло некамуністычнае.

Міністр Квяткоўскі заявіў, што на разбудову Цэнтральнага Прамысловага Вокругу вызначана кругла 1 мільярд і 21 мільён.

— Анд. Струг — памёр. Дня 9 г. м. памёр сэнатар, пісьменьнік і публіцыст Андрэй Струг; праўдзівае прозьвішча нябожчыка было Тадэуш Галэцкі.

— Катастрофа аэрапланаў. Ня так даўна йшчэ была адна катастрофа пасажырскага аэраплану польскага Т-ва „Лёт", пад Варшавай, як у канцы лістапада разьбіўся аэраплян другі, гэтым разам у Баўгарыі. Ляцеў ён з Палестыны ў Польшчу, і ў горах, падчас сьнежнай буры, ударыўся аб скалу і разьбіўся. Усе, хто ехалі на гэтым аэрапляне, забіліся на месцы. Кожны з пасажыраў быў застрахаваны на 40 тыс. зл., а сам аэраплян каштаваў 800 тыс. зл.

— Вайсковае выхаваньне студэнтаў у школах вышэйшых. У найбліжэйшым часе адбудзецца на ўсіх высокіх школах вайсковая рэестрацыя ўсіх студэнтаў і студэнтак, каб праверыць іхнюю здольнасьць да вайсковай службы. Сойм у найбліжэйшым часе будзе разглядаць адпаведны закон аб абавязку вайсковага шкаленьня ўсіх студэнтаў і студэнтак ужо з пачатку наступнага школьнага году.

## У Украінцаў.

— З нармалізацыяй — кепска. Угода польскага ўраду з украінскай партыяй УНДО называецца „нармалізацыяй". Гэта нармалізацыя йшла ад пачатку цяжка, а цяпер з гэтай нармалізацыяй яшчэ цяжэй. На гэтым грунце паўстаюць непаразуменьні ў лоне самага УНДО.

А даходзіць нават да таго, што, як падае украінская прэса, у Кракаве жаўнерам забараняецца ўваход у украінскую грэцка-каталіцкую царкву.

## З ВІЛЬНІ.

— І ў гімназіях проціў жыдоў выступаюць бацькі дзяцей, жадаючы, каб іхнія дзеці сядзелі асобна ад дзяцей жыдоўскіх. Віл. Школьная Куратορыя гэту вестку ў апошні мамэнт запярэчыла.

— Ахвяры чаду. Раньнія сёлетнія маразы змусілі жыхароў Вільні старацца аб добры апал і аграваньне хатаў. Здараюцца пры гэтым выпадкі частага чаду, ад каторага паміж многімі іншымі ахвярамі апынуўся сёлета і беларус кс. С. Глякоўскі, якога мусіла ратаваць лекарская скорая помач.

— Сьмерць праф. Розэ. 30 лістапада сёл. памёр неспадзевана ад разрыву сэрца прафэсар Віленскага Унівэрсытэту і сусьветнай славы вучоны Максымільян Розэ. Нябожчык апрача таго быў дырэктарам шпіталю для нэрвова хворых у Вільні і колёніі для такіх-жа хворых у Кайранах пад Вільняй.

## Усячына.

— Каразахрост. Адзін з князёў Радзівілаў, князь Міхал, пастанавіў ажаніцца з жыдоўкаю Ж. Сухэстов. Але дзіва ня ў гэтым, а ў тым, што заручніцу, хоць яна хацела ахрысьціцца, то яе чамусьці каталікі — ані лацінькікі, ані уніяты — прыняць не хацелі. Не сьпяшаліся, відаць, прыняць да сябе будучую княгіню і праваслаўныя, калі духоўнік гэтае царквы, затое што бяз ведама вышэйшых уладаў п. Сухэстов ахрысьціў, быў гэтымі-ж уладамі ўстрымаsucceed ў сваіх духоўніцкіх правох (засуспэндаваны).

**Карыстайце з восенскіх і зімовых доўгіх вечароў, каб даведацца аб лепшых спосабах гаспадаркі і жыцьця. Памоцнымі да гэтага могуць быць наступныя кніжкі:**

1. Klimovič Ad. inž.: **Ziemlarobskaja čytanka,** č. I. Zbornik staciej ab haspadarcy polnaj, damovaj, žyviołahadoŭli, małačarstvie, pčalarstvie, rybactvie, laśnictvie i h. d. Bačyn 144. Cana 75 hr.
2. Klimovič Ad. inž.: **Leki na ździeki.** Papularny narys kooperatyŭnaj samapomačy. Bač. 32. Cana 20 hr.
3. Зеленскі В.: **Батаніка.** Падручнік дзеля пазнаньня жыцьця ўсіх нашых расьлінаў (дрэваў, траваў, кветак, грыбоў і г. д.). Бач 159. Цана 1 зл.
4. Turonak B. dr.: **Hygijena ŭzhadavańnia dziciaci.** Haloŭnyja praviły zdarovaha žyćcia. Bač. 40. Cana 15 hr.
5. Пачопка Я.: **Малочная карова.** Як выбіраць, карміць і даглядаць. Бач. 84. Ц. 75гр.
6. Пачопка Я.: **Як выбраць добрага каня.** Бач. 31. Цана 60 гр.
7. Пачопка Я.: **Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вульлёх.** Бач. 200. Цана 2.50 зл.
8. Малышэў Н.: **Фізыолёгія і анатомія чалавека.** Як пабудавана людзкое цела і як працуе ягоны арганізм. Бач. 120. Ц. 1 зл.
9. Лункевіч В.: **Закон жыцьця сярод жывёлаў і расьлін.** Бач. 53. Цана 60 гр.
10. Крывіцкі й Выкачка: **Як палепшыць пескавую глебу.** Бач. 24. Цана 20 гр.
11. Karalenka M.: **Majovy chrušč i sposaby baraćby z im.** Bač. 12. C. 10 hr.
12. Hrynkievičy dr. dr. St. i J.: **Rady chvorym i zdarovym.** Ab zaraznych i inšych chvarobach. Č. I. Bač. 119. Cana 50 hr.
13. **„Samapomač"**, hadavik 1932-33 C. 3 zł.
14. „ „ 1934 Cana 3 „
15. „ „ 1935 „ 3 „
16. „ „ 1936 „ 3 „

Хто выпісвае за раз больш як на 10 зл., той за перасылку ня плаце. Хто выпісвае на менш, той павінен да кожнай залатоўкі вартасьці кнігі дадаць яшчэ 15 грашоў на перасылку. Найтаней выпісваць перасылаючы грошы наперад, бо за „zaliczeniem" пошта дарахоўвае йшчэ даплату асобную. Хто аднак хацеў-бы выпісаць кнігі за za zaliczeniem. той мусіць наперад прыслаць найменш трацінy вартасьці заказу. Без задатку заказы ня выконвуюцца.

Усе заказы на пералічаныя і ўсякія іншыя кніжкі й часапісы хутка выконвуе

**Беларуская Кнігарня**
**«ПАГОНЯ»**
**Вільня, Завальная 1.**

**Ужо прыймаецца падпіска на „Самапомач" на 1938 г. Ці Вы ня маеце доўгу за 1937 год?**

„Самапомач" выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.

ПАДПІСКА на „Самапомач": да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім Фр. Скарыны ў Вільні; Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС"